*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 4 (268)

24 студзеня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў



СТАТУТ 1566 ГОДА Стар. 3.

ГРАМАТЫКА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА Стар. 6.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **СТАРШЫНЁМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБРАНЫ ЛІДЭР АГРАРНАЙ ПАРТЫІ СЯМЁН ШАРЭЦКІ.** На першай прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета на пытанне пра ягонае бачанне знешнепалітычных праблем Беларусі падкрэсліў: трэба спыніць абяцанкі людзям, што будзе адноўлены СССР. «Трэба думаць, што ў нас ёсць свая дзяржава, якую трэба ўмацоўваць і кіравацца ў палітыцы яе інтарэсамі, — заявіў С.Шарэцкі. — Мы звязаны эканомікай, культурай, нават сямейнымі сувязямі з нашым усходнім суседам — Расійскай Федэрацыяй. Гэта трэба ўлічваць, у бліжэйшай будучыні ўсходні напрамак будзе для нас прыярытэтным. Але гэта не значыць, што будзе пастаўлена пытанне аб аб'яднанні. Развіваць адносіны з Расіяй мы павінны не губляючы свайго суверэнітэту». Хочацца, каб Старшыня Вярхоўнага Савета не забыўся на гэтыя словы ні праз год, ні праз тры, ні праз пяць і праводзіў у жыццё палітыку, якая б умацоўвала нашу дзяржаўную незалежнасць.

❍ **16 СТУДЗЕНЯ НА ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ БЫЛІ АБРАНЫ НАМЕСНІКІ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА.** Першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета стаў Васіль Новікаў, намеснікамі — Генадзь Карпенка і Юрый Малумаў. Генадзь Карпенка — адзіны з кіраўнікоў Вярхоўнага Савета, які размаўляе па-беларуску.

❍ ***САКРАТАРЫЯТ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ВЫЗНАЧЫЎ ДАТУ*** *правядзення навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты» — 30 сакавіка сёлета.*

❍ **БЕЛАРУСКАМУ ТЭЛЕГРАФНАМУ АГЕНЦТВУ СПОЎНІЛАСЯ 75 ГАДОЎ. ЧУТКІ АБ ПЕРАЕЗДЗЕ ФІЛАЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА,** з будынка, дзе раней была ВПШ, аказаліся толькі чуткамі. Як стала вядома з Адміністрацыі Прэзідэнта, філфак застанецца, дзе і быў.

❍ ***ПАСЛЯ СЯМІМЕСЯЧНАГА ПЕРАПЫНКУ Ў МАГІЛЁВЕ АДНАВІЎСЯ ВЫХАД ГАЗЕТЫ «РАТУША»***, *якая стала цяпер выходзіць як непартыйная, незалежная газета. Адзінае, што засталося ад старой «Ратушы», — гэта яе беларуская мова. І на сённяшні дзень «Ратуша» засталася адзіным выданнем на Магілёўшчыне, якое адмовілася пераходзіць на двухмоўе.*

❍ **МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ І НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНЫ ЦЭНТР ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ ВЫДАЛІ** нулявы нумар інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня «Кантакты і дыялогі». Галоўная мэта бюлетэня — інфармаваць аб грамадска-культурным узаемадзеянні Беларусі з іншымі краінамі і народамі.

❍ ***АРГКАМІТЭТ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ ЭКСПАЗІЦЫІ НАШАЙ КРАІНЫ І ПРАВЯДЗЕННІ ДЗЁН ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ ВЫРАШЫЎ*** *выдаць альбом пад назвай «Беларусь». Ён будзе выдадзены на беларускай, нямецкай і англійскай мовах.*

*Жыццё Таварыства*

## На першым пасяджэнні Сакратарыята ТБМ

11 студзеня ў сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылося пасяджэнне Сакратарыята ў новым яго складзе. Акрамя сяброў Сакратарыята, у ім удзельнічалі штатныя супрацоўнікі ТБМ ды запрошаныя прадстаўнікі грамадскіх, палітычных і дзяржаўных арганізацый.

Першым было абмеркаванае пытанне аб выкананні рашэння Рады ТБМ — арганізацыі канферэнцыі, прысвечанай сучаснаму стану беларускай мовы, яе дыскрымінацыі ў гістарычным, палітычным і сацыяльным аспектах. У сувязі з гэтым прысутным давялося вырашаць цэлы шэраг праблем: ужываць ці не ўжываць у назве канферэнцыі тэрмін «дыскрымінацыя», вынікам чаго можа стаць адмаўленне дзяржаўных структур ад яе падтрымкі і ўдзелу ў ёй. Пасля нядоўгіх спрэчак гэтае акрэсленне вырашана было пакінуць.

У наступную чаргу разглядаліся пытанні ўдзелу ў канферэнцыі іншых арганізацый — недзяржаўных і дзяржаўных, грамадскіх і палітычных, аб персанальным складзе арганізацыйнага камітэта канферэнцыі, даце яе правядзення ды крыніцах фінансавання. Апошняя праблема аказалася надзвычай актуальнай з тае прычыны, што фінансавы стан Таварыства не дазваляе арганізацыі выдаткоўваць на свае праграмы значныя сродкі, а спадзявацца на дзяржаўную падтрымку акцыі абароны дзяржаўнай мовы не выпадае. Таму неабходным стаў пошук структур, гатовых не толькі маральна, але і практычна падтрымаць ТБМ.

Што да ўдзелу ў планаванай канферэнцыі іншых, акрамя Таварыства, арганізацый, дык было вырашана кола іх не абмяжоўваць, запрасіўшы, незалежна ад скіраванасці, усіх, для каго беларуская мова з'яўляецца прыярытэтам.

Наступнай праблемай да абмеркавання стала ўпарадкаванне фінансавых справаў Таварыства ды пытанні, што ўзніклі ў выніку змены складу кіраўніцтва ТБМ. Былі выказаныя прэтэнзіі да дзейнасці сп. Я.Цумарава. Сакратарыятам было прапанавана з мэтаю хутчэйшага разгляду пытання запазычанасці ТБМ дзяржаўным структурам ды іншых грашовых праблем далучыць да іх вырашэння рэвізійную камісію Таварыства.

**У.П.**

## Шаноўныя акадэмікі, задумайцеся і адумайцеся!

***Прэзідыуму Акадэміі навук Беларусі***
***Прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі спадару Лявону СУШЧЭНЮ***
***Дырэктарам акадэмічных інстытутаў***

Менская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з артыкула-ліста «Сорак гадоў «Весці...» былі беларускамоўнымі. Навошта перакладаць іх на рускую мову?», які надрукаваны ў «Навінах АН Беларусі», № 50, даведалася аб практычнай антыбеларускай, антынацыянальнай, шавіністычнай дзейнасці навукоўцаў-асаднікаў, для якіх ніколі не было беларускай мовы, нягледзячы, што яны на стала ўсталяваліся на беларускай зямлі і па прызначэнню свайго таленту і месцы ў жыцці грамадства Беларусі павінны не толькі спрыяць вяртанню беларускаму народу адабранай знешнімі сіламі роднай нацыянальнай мовы, але і павінны быць прыкладамі-носьбітамі яе ў беларускай Акадэміі навук. Асаблівае здзіўленне выклікае тое, што з ініцыятывай духоўнага забойства не аднаго чалавека, а цэлага этнасу (няма роднай боскай мовы — няма нацыі) выступіла жанчына-акадэмік Л.Хатылёва. Гэта жахліва.

Пісаць аб тым, што ў нацыянальнай Акадэміі Беларусі беларуская мова павінна адраджацца і пашырацца, а яе акадэмікі павінны быць жывымі апосталамі сучаснага беларускага рэнесансу, алагічна. У Акадэміі навук Расіі працуюць акадэмікі іншых нацыянальнасцей, у тым ліку і беларусы, але пакуль невядомы вар'яцкі ўчынак — прапанова аб спыненні выдання «Известия...» на расійскай мове. Ці Акадэмія навук Беларусі не падпадае пад агульныя законы логікі і здаровага сэнсу?

Шаноўныя акадэмікі, навукоўцы Беларусі, спыніцеся, адумайцеся, задумайцеся аб асабістай адказнасці за вяртанне беларускай мовы ў сцены акадэміі, універсітэтаў, школ — у цэлым: у асяроддзе навукі, культуры, адукацыі. Беларусы маюць права жыць у сваім родным беларускамоўным асяроддзі, а вярнуць яго, выхоўваць нацыю — ці не гэта галоўнае прызначэнне Вашага таленту, Інтэлекту, прафесійнай і грамадзянскай адказнасці. Прыкра будзе, калі, напрыклад, імя акадэміка Л.Хатылёвай за яе навуковыя дасягненні будзе напісана залатымі літарамі, а за знішчэнне беларускай мовы — як сучаснага Мураўёва.

Патрабуем не толькі спыніць задуманае закрыццё беларускамоўных выданняў, а, наадварот, распрацаваць праграму паступовага пераводу ўсіх выданняў на беларускую мову ў Акадэміі навук незалежнай і суверэннай Беларусі.

**По даручэнні Менскай гарадской Рады ТБМ Мікола САВІЦКІ, прафесар.**

*Маладая Беларусь*

## Снежаньскі фестываль «Зямля пад белымі крыламі-1996»




3 снежня 1995 г. у гарадзенскім Палацы хімікаў адбыўся заключны канцэрт пераможцаў конкурсу «Зямля пад белымі крыламі-1995» (Гісторыя і песні Беларусі). Пераможцы (узростам ад 10 да 20 гадоў) атрымалі заслужаныя ўзнагароды: магнітолы «Sony», «Panasonic», кнігі, ласункі ды іншыя падарункі дзякуючы падтрымцы Беларускага Фонду Сораса. Але не меншую радасць пераможцы атрымалі ад іх уласных твораў, якія прагучалі ўпершыню ў выкананні прафесіяналаў.

А што ж рабіць тым, хто, на жаль, не наведвае музычную школу? У іх таксама ёсць магчымасць удзельнічаць у нашым конкурсе — у літаратурна-гістарычным раздзеле. Дзеля гэтага трэба скласці гістарычную даведку пра сваю сям'ю з звесткамі пра хаця б некалькіх продкаў, іх імёны, даты і месца жыхарства, прафесіі, характары, творчыя схільнасці, пра цікавыя выпадкі, генеалагічнае дрэва роду, не менш за тры пакаленні. (Па сакрэту скажу: журы вельмі падабаецца, калі вы дабераецеся да пра-пра-пра-прадзедаў — тады і можна спадзявацца на прызы.) Каб прыгожа намаляваць радаслоўнае дрэва — паглядзіце ў газеце «Наша слова» (№ 40 за 1995 год), як выштукаваны радавод Агінскіх. Можна дапоўніць свой


*(Заканчэнне на с.8.)*


*Творчасць нашых чытачоў*

*Юозас РЫБІКАЎСКАС*

## Сучасным ворагам беларушчыны

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*
**Янка Купала.**

У час надзеі і змагання
Звяртаўся так Пясняр да вас.
На гэта грознае пытанне
Калі пачуем мы адказ?

Народ запомніў крыўд нямала,
Быў доўгі шлях да Калымы...
І наша мова ледзь гучала
Ў гады чырвонае чумы.

Прайшлі гады выпрабаванняў,
Хлусні і здзекаў, і пакут...
Ідзе чароўны светлы ранак
У змучаны наш родны кут.

Ў дзяржаве незалежнай, новай
Ўжо родны дух пачаў лунаць...
А вам усё хочацца, панове,
Чужыя песенькі спяваць.

г. Коўна, Летува.

Ліст у рэдакцыю

# Трывожна і горка

У нашым бязладным жыцці штодня сустракаешся з рознымі праявамі, якія выклікаюць адмоўныя эмоцыі. Балюча і крыўдна, калі яны звязаны з пагардай да роднай мовы. Пра два такія выпадкі хачу расказаць.

Першы звязаны з перадвыбарчай кампаніяй. Невялікая група лідчан мікрараёна вуліцы Катляроўскага прыйшла на сустрэчу з кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета па Чырвонаармейскай выбарчай акрузе. Пяць прэтэндэнтаў на крэсла парламентарыя, якія выступілі першымі, прамаўлялі, як у нас заведзена, на расійскай мове. Апошняму далі слова Сяргею Лазарэвічу, які гаварыў па-беларуску. Не паспеў ён закончыць выступленне, як пасыпаліся бесцеремонныя пытанні-абвінавачванні. У іх ліку словы-папрокі, чаму кандыдат надумаўся(!) выступаць на беларускай мове. Знайшоўся, маўляў, разумнік, каб выдзеліцца. На жаль і здзіўленне, такі выбрык не выклікаў нават заўвагі з боку старшыні акруговай камісіі Пятра Гардзіёнка.

А зараз другі адрас. Вытворчае аб'яднанне «Лідабудканструкцыя» спраўляла свой юбілей. Здавалася, пастараліся арганізатары свята. Праходзіла яно не па шаблону. Адзначылі заслугі ветэранаў, нават першых кіраўнікоў ушанавалі. Былі, вядома, кветкі і падарункі, людзям прысвячаліся песні. Але, але... На імпрэзе не чуваць было беларускага слова. І не прагучала нават ні адна беларуская песня! «Руская ж мова ў нас дзяржаўная», — адказалі арганізатары ўрачыстасці на маё здзіўленне.

Вось як разумеюць у Лідзе вынікі прэзідэнцкага рэферэндуму! Божухна мой, што з намі робіцца! Каб так адракацца ад свайго роднага, нацыянальнага. І гэта ў старажытным горадзе Беларусі.

У «застойныя» гады ў вёсцы думаючыя кіраўнікі да такога не апускаліся. Успамінаю юбілей вёскі Геранёны. Хоць былі тады райкамаўскія наглядальнікі, а на ўрачыстасці разам з расійскімі прагучалі беларускія і польскія песні, песні тутэйшых людзей. А вось у суверэннай Беларусі дачакаліся: гавары і спявай па-расійску. Рыхтуйся да «воссоединения», ці што?

Няўжо нашай краіне і яе народу наканавана стаць безымяннай тэрыторыяй і безымянным насельніцтвам дзеля ўмацавання суседзяў?

Гэтыя пытанні я адрасую праз газету новаму Вярхоўнаму Савету, Прэзідэнту і ўраду Беларусі. Яны быццам за развіццё культуры беларусаў і, зразумела, іх мовы. А што ў жыцці? Пра Ліду сказана. Хіба лепш у Менску? Наўрад. Нават Беларускае тэлебачанне і радыё здаюць у гэтай справе ранейшыя пазіцыі. Горка і трывожна.

**А.ЖАЛКОЎСКІ,**
**ветэран працы.**
г.Ліда.

АЛЕ! АЛЕ!

# Уважыў міністр беларуса

У бібліятэцы імя Янкі Купалы 12 снежня 1995 г. адбылася прэзентацыя праграмы інфармацыйнага цэнтра, створанага для дапамогі гуманітарыям-выкладчыкам ВНУ і настаўнікам школ. На прэзентацыі прысутнічаў і гаварыў пра рэформу адукацыі міністр Васіль Стражаў.

Мяне, чалавека, далёкага ад адукацыі, але прыхільніка адраджэння мовы, прывабіла гэтае мерапрыемства. Як толькі началася гутарка, неяк адразу паблеклі і гіпсавыя Янка Купала, і сцэны, аздобленыя малюнкамі юнакоў і дзяўчат у нацыянальных вопратках, і надпісы па-беларуску. Размова вялася на «великом и могучем». А калі пачаў выступаць міністр адукацыі, я перапытаў нават суседа — ці сапраўды гэта Стражаў, бо мо я не дачуў.

У сваім выступленні спадар Стражаў доўга з асаблівай разважлівасцю аб школах ў «американской», «европейской» і «советской». Адзначыў, на яго погляд, іх хібы і лепшыя бакі. З выступу я зразумеў, што савецкая школа не горшая, а таму, па сваёй сутнасці, і застанецца савецкай, толькі будзе рэфармавацца. Што савецкая адукацыя не горшая за замежную, пацвярджае запушчаны ў 1961 годзе спадарожнік, інтрыгуюча заўважыў сп.міністр.

Узровень развіцця грамадства вызначаецца не тым, што выраблявецца, а як выраблявецца. Спадарожнік, гэта свайго роду вопратка грамадства таго часу, па якой сустракалі, але ж праводзілі па розуму. Развіццё грамадства, узровень выхавання, між іншым, вызначаецца яшчэ і адносінамі да жанчыны, законнасці, нацыянальных традыцый, а таксама станам прыбіральняў, грамадскіх памяшканняў. Ці можам мы ў гэтым чым-небудзь пахваліцца? Няўжо сп.міністр ніколі не бачыў запляваных тратуараў, пашкоджаных, забруджаных сцен ў пад'ездах дамоў, не хадзіў у грамадскія прыбіральні, над яго вухам не лускалі ў грамадскім транспарце семкі і не мацюкаўся п'яны? Ці прыслухоўваўся ён калі, ідучы ў натоўпе рабочых, да іх размовы — адзін мат, лаянкі, убоства думкі? А гэта ж былыя выхаванцы савецкай школы. Дык ці дасць нам рэформа нешта іншае? Я адказу не пачуў. Не пачуў я і пра тое, як будзе развівацца нацыянальная школа, і наогул, ці будзе яна ўвогуле, і як будуць ураўнівацца расійская з беларускай мовай. Ён і словам не абмовіўся пра тое, што ёсць дзяржава Беларусь, яе школа, культура мовы, нацыянальныя асаблівасці.

Незалежна ад палітыкаў, усялякіх іх выбрыкаў-вызначэнняў накшталт «капіталістычная», «камуністычная», «еўрапейская» ці «савецкая» рэчаіснасць, ёсць агульначалавечыя каштоўнасці. У аснове школьных праграмаў менавіта яны павінны стаяць. Але ў такім выпадку спадару міністру з міністэрствам давядзецца распрацоўваць метадалогію дасягнення вызначанай мэты. А таму няма ўпэўненасці, што чарговы міністр не пачне чарговую рэформу. Нездарма на справядлівую цікаўнасць аднаго з прысутных, хто ж будзе несці адказнасць за вынікі рэформы, грунтоўнага адказу не атрымалася. Не выпрацаваны ў краіне механізм адказнасці за ўсялякія рэформы, эксперыменты. Вось чарговых «дроў наломім», а там паглядзім, што з імі рабіць.

Савецкая школа, зразумела, выхоўвае савецкіх людзей (а хацелася б, каб беларускіх). Але... Калі яна ёсць, дык што з гэта за школа, калі людзі, выхаваныя ёю, абыякавыя нават да гэтых самых саветаў?

Тым не менш, спадар міністр уважыў беларуса, уважыў. Адказаў на зададзенае пытанне па-беларуску. Але застаецца спрэчным: каго ўважыў і каго тым самым зняважыў. Асабіста я лічу знявагай майго ўласнага гонару, калі хтосьці у грамадскай бясьедзе, вёўшы гутарку па-расійску, пачне мне на мой беларускамоўны зварот тлумачыць па-беларуску. Гэтым ён падкрэслена выдзяляе мяне з калектыву. Гэта нават горш, чымся публічна тыцкаць пальцам у бок суразмоўцы.

Калі прытрымвацца такога ўзроўнівання, а дакладней, гульні ў двухмоўе, то мовы беларускай мы доўга не пачуем ні на прадпрыемстве, ні ва ўстановах, ні на грамадскіх мерапрыемствах.

На працы я карыстаюся беларускай мовай пастаянна, папярэдне цікаўлюся, ці разумеюць мяне. Калі хто скажа «не» — пераходжу на расійскую. Вельмі рэдка было, каб мяне не разумелі, і за гэта я вельмі ўдзячны майму калектыву, заводчанам, кіраўніцтву. Ёсць у іх глыбінная павага да беларускасці!

**Мікола ЛАВІЦКІ,**
**намеснік начальніка аддзела аховы працы Менскага аўтазавода, старшыня Рады ТБМ Заводскага раёна.**

У газетах

# Вельмі хутка рабілі

Цікавы мы, браточкі, народ — нешта зробім, а потым пачынаем разважаць: што гэта такое атрымалася? Канешне, і пачацьства ў нас адпаведнае, бо наша ж. Вырашыла яно замест гістарычнай, усім зразумелай сімволікі даць сваю. Ну, мы ж думалі, яно ведае, што робіць. А паколькі прывыклыя ва ўсім яму дагаджаць, асабліва калі паабяцае нам светлую будучыню, даверыліся і прагаласавалі на рэферэндуме за што яно хацела. А цяпер аказалася — начальства само не ведае, а што яно такое народу стварыла.

Вось і давялося даваць кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М.Мясніковічу распараджэнне наконт арганізацыі конкурсу на лепшае тлумачэнне цяперашняй дзяржаўнай сімволікі, праведзенай у жыццё праз рэферэндум у 1995 годзе.

Бо людзі, якія ўзначальваюць нашу «вертыкаль», хочуць быць сумленнымі перад сваім народам і самімі сабою. Таму рашылі: калі грамадзяне прагаласавалі «за», то няхай цяпер заадно і сваё тлумачэнне прапануюць: а канкрэтна за што — «за»?

Хай за матэрыяльнае ўзнагароджванне, ну, скажам, яку прагарме «Угадай мелодию» ці ў свой час — у «Литературке» пад рубрыкай «Што б гэта азначала?», паканкуруюць між сабой, выдадуць свае варыянты. А «наверсе» выберуць найбольш «падходзяшчы». Будзе, дарэчы, прычына арганізаваць яшчэ адну намінацыю — «Лепшы аўтар года тлумачэння дзяржаўнай сімволікі». Народ пачаў актыўна адукацца, назіраецца ўсплёск непадробнага энтузіязму творцаў, вынікі ўжо навідавоку.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

* * *

*«На наш погляд, зялёны элемент сцяга можа сімвалізаваць сабою маладосць беларускай дзяржавы і яго кіраўніцтва, адсутнасць у дзеяннях прадстаўнікоў уладных структураў усялякіх шаблонаў ды стэрэатыпаў, уласцівых даўно сфарміраваным і закасцянелым дзяржаўным утварэннем. «Молодо-зелено!» — ці не пра нас казалася?..»*

«Гэта раней, да 1991 года, усё разумелася адназначна: маўляў, наша мэта — камунізм! Цяпер жа неабходна бачыць у гэтай чырвані зусім іншы сэнс (але пры гэтым не вельмі ўжо далёка зазіраць: як вядома, і сцяг гітлераўскай Германіі таксама быў чырвоным!). Таму лепей за ўсё кожнаму разумець гэты колер так, як ён лічыць патрэбным. Хай нехта, каму ахвота, напружвае мазгі, спрабуючы высветліць, што б азначала гэта прыхільнасць Беларусі да чырвонай часткі спектра — нам і так будзе добра!..»

*«Дарэчы, на тым першым узоры не было і контурнай карты Беларусі, якую цяпер асвятляюць промні ўзыходзячага (ці заходзячага) сонца па-над паўночным полюсам зямной кулі. Ясна, ужо апасля плебісцыту нехта з геральдычна думаючых дзяржаўных дзеячаў, калі дзіваваўся над рэтушаваным гербам, здагадаўся, што гэткай краіне, якая так паважае хрысціянскія традыцыі, як Беларусь, дзе святкуюць на ўсялякі выпадак па два Ражаствы ды па дзве Пасхі штогод, неяк непрыстойна асноўным элементам сваёй эмблемы мець нейкі зараастрыйскі сонцапаклонніцкі знак...»*

**(«Фемида», № 2, 1996 г.)**

Але!

# Былі б астролагі, а планеты і зоркі ўсё стрываюць...

Аўтар гэтых радкоў, магчыма, і не заўважыў бы публікацыі ў «Знамя юности» (9.06.96) пад назвай «Паміж небам і зямлёй», падпісанай: «Вераніка Кудраўцава, астролаг, спецыяльна для «ЗЮ». Не заўважыў бы, бо розных астралагічных прагназёраў зараз багата.

Але вось гэтае «спецыяльна» — неяк зачапіла сваёй, так бы мовіць, знарочыстасцю.

І, сапраўды, астролаг, акідваючы сваім «вешчым» позіркам тое, што закрыта ад вачэй звычайных людзей (неастролагаў, неведзьмакоў, не г.д.) — паказала: яна ведала, што трэба пісаць пра 1996 год, калі друкаваць напісанае ў «ЗЮ».

Аказваецца, сёлетні год, які ўжо ўступіў у свае правы, — гэта набліжэнне эры Вадалея, ў які ўвойдзе Уран. Але ў той жа час Юпітэр будзе знаходзіцца ў знаку Казярога.

Што ж азначае сімволіка Вадалея?

Гэта, як мяркуе шаноўная аўтарка, ёсць «спазнанне полюсаў: ад абсалютнага адмаўлення да абсалютнага сцвярджэння; адмаўлення расавага да нацыянальнага развіцця, але раздзяленне людзей па духу і перакананнях — вось найкаштоўнейшая сутнасць Вадалея.

Карацей, лепей у 1996 годзе афрыканцам плюнуць на тое, што яны — афрыканцы, белым еўрапейцам — на сваю прыналежнасць да еўрапейскай расы, японцам ды кітайцам — на ўласную манголаіднасць і г.д.

Ім усім лепей аб'яднацца. Асабліва — па перакананнях. Камуністам усіх колераў скуры — у камуністычны інтэрнацыянал, напрыклад. Капіталістам — у сусветную Кансерватыўную Супольнасць, а разнастайным хрысціянскім канфесіям — у Міжкантынентальную Апостальскую Царкву ды яшчэ пашукаць, ці не можна знайсці агульную базу для стварэння адной на ўсіх зямлянаў Рэлігіі шляхам аб'яднання з будзістамі, магаметанамі і шаманамі з паўвострава Чукотка.

Бо, яшчэ, аказваецца, у XIX стагоддзі «ўзрадзілася ідэя сусветнага братэрства і дружбы паміж народамі». Цудоўна!

Праўда, дзеля гэтага маньякі з сярпаста-малатвастымі, свастыкападобнымі ды іншымі знакамі Антыхрыста ў дзвюх сусветных і ў безлічы драбнейшых войнаў знішчылі ў XX стагоддзі больш за 50 мільёнаў насельнікаў, спрабуючы «перагілявіць» народы, нацыі і народнасці. Але ж гэта акалічнасць да ўвагі паважанай Веранікай Кудраўцавай не прымаецца.

У 1996 годзе, прарочыць яна, будзе мець месца «імкненне да аб'яднання славянскіх народаў»: «ідэйны ўздым»(?!) Потым сп.Кудраўцава тлумачыць: «Славянскія народы пачнуць асэнсоўваць свой агульны лёс, стануць фарміраваць ідэалогію будучыні». Праўда, пра тое, што станецца, напрыклад, з беларускай мовай і культурай (ці ўкраінскай, польскай, славацкай, балгарскай), астролаг не інфармуе. Відаць, гэта дробязь.

Але, трэба аддаць шаноўнаму астролагу належнае: яна прадбачыць, што з другой паловы лютага і да сярэдзіны сакавіка ў Беларусі «не выключана ўзмацненне нацыянальных тэндэнцый, «барацьба з ворагамі». Хто ж тут магчымы гараскапічны вораг?

Мяркуючы па прагнозу Веранікі Кудраўцавай, нясоладка будзе ідэолагам беларускага нацыяналізму, таму ж Зянону Пазьняку. «Напэўна, больш камфортна ён можа пачувацца за мяжою, але не ў краінах, што знаходзяцца пад знакам Рака. Во як! Карацей, Зянону Станіслававічу «па Кудраўцавай» свеціць эміграцыя, яму самы раз пакаваць «чамаданы» і «змывацца» з Беларусі, пакуль жывы.

Іншым палітыкам будзе куды лепей — і Вячаславу Кебічу, і Генадзю Карпенку і нават Станіславу Шушкевічу, якому нават пашэнціць «пакінуць пра сябе след»(?)... У паважанага Прэзідэнта, праўда, можа падарвацца здароўе, бо няспынная праца і змаганне дорага каштуюць.

А ўжо, як здароўе Аляксандра Рыгоравіча падарвецца, то «палітыка дзяржавы... можа змяніцца на 180 градусаў». Вось толькі спецыялістка па зорках і планетах не гаворыць, ці трэба выклікаць назад з-за мяжы Зянона Станіслававіча.

Вось такі «ЗЮ» надрукавала прагноз: у агародчыку бузіна, а ў Кіеве дзядзька. Але такая бузіна і такі дзядзька, што вельмі неабходныя славянасаборцам.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

Ліст у рэдакцыю

# Для каго беларус плаціць падатак?

Агульнавядома, што без адладжанай падатковай сістэмы ў любой дзяржаве занялала б уся бюджэтная сфера, да якой у нас належыць і дзяржаўны кінапракат. Але, плацячы падаткі, ці бачым мы ўвасабленне сваіх выплат у канкрэтных справах? Варта ўключыць тэлевізар,п айсці ў музычную краму ці ў кіно — паўсюль перавага чужога над сваім. На беларускія кружэлкі, пераклад замежных фільмаў на родную мову ці на вытворчасць сваіх няма грошай — чуем мы. Затое, аказваецца, на распаўсюджванне аўдыёзапісаў расійскіх выканаўцаў ці пракат кіна- і відэафільмаў, хай нават заходняй вытворчасці, але агучаных па-расійску, сродкі знаходзяцца. Знаходзяцца магчымасці і для трансляцыі на Беларусь (аплачанай за нашыя грошы), у якой на адзіным нацыянальным тэлеканале і так пераважае чужая мова, яшчэ чатырох замежных тэлепраграм — усіх з-за ўсходняй мяжы. Дык куды ж ідуць нашыя грошы?

Калісьці адзінай рэччу, даступнай беларускім калекцыянерам, была кніга. З абвяшчэннем нашай краінай незалежнасці да бібліяфілаў далучыліся філатэлісты, якія цяпер маюць беларускія раздзелы ў сваіх калекцыях. Але я — аматарка відэа, хацо гэтае захапленне мае і чыста практычную скіраванасць. Мне хочацца, каб мае дзеці з тэлевізійнага экрана чулі не чужую мову, а сваю. Таму мая калекцыя відэазапісаў узнікла як супрацьвага таму, што накідвае нам нашая дзяржава праз тэлевізію і кінапракат. Дзякуючы ёй маёй дачцы, якой толькі чатыры гады, не трэба перакладаць словы, што гучаць з экрана, ды тлумачыць, што такое Беларусь і хто такія беларусы. Бо яна выхоўвалася не толькі на вершах Купалы, але і гледзячы відэазапісы канцэртаў беларускіх бардаў і рок-гуртоў, фільмаў «Данчык» ды «Мы адной табе належым». У гэты спіс я ўключу і «Калыханку», падчас трансляцыі якой нам з мужам даводзіцца, праўда, выключаць тэлевізар на сярэдзіне перадачы, аберагаючы дзіця ад уплыву двухмоўя (ці двудушнасці)?

Але дачка расце, і ёй ужо замала тых адфільтраваных перадач, тых мілых сваёй лаканічнай маўклівасцю амерыканскіх мультфільмаў пра Друпі, Тома і Джэры ды іншых... А што потым прапанаваць дзіцяці? Мы не хочам выхоўваць дачку на «Міколках-паравозах» ці броўкавых камісарах, не кажучы ўжо пра агрэсіўна-шавіністычную тэле- і кінапрадукцыю нашых усходніх суседзяў. Але ж нічога іншага дзяржаўная, аплачаная сродкамі з нашай кішэні, тэлевізія не прапануе, задавальняючы патрабаванні выключна расійскамоўнай часткі насельніцтва.

Дзяржава намі не цікавіцца. Затое, даведалася я з публікацыі ў «Чырвонай змене», у сталіцы ёсць прыватная студыя, якая займаецца распаўсюджваннем беларускіх відэакасет. Я адшукала тую студыю — на ёй мне запісалі фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», прапанавалі падборкі беларускіх кліпаў. Затое калі я пацікавілася беларускамоўнымі дублямі заходніх фільмаў, дык пачула ад перакладчыка Сержука Кірынкі: у іх гатовы пераклад амерыканскага фільма «Прывід у сталёвай масцы», а Беларускі дзяржаўны кінарэгістр нават прапанаваў ім свае тэхнічныя паслугі, але запрасіўшы за іх суму для студыі абсалютна непрымальную. «Хочаш працаваць на беларушчыну — працуй, але за гэта плаці грошы дзяржаве», — патлумачыў ён мне. Дык на што ж не хапае грошай нашай дзяржаве — на культуру ці на нас, беларусаў, яе грамадзян?

**Т.ЕРМАКОВІЧ.**

Наш каляндар

# Хартыя шляхецкіх правоў і вольнасцяў

*(26 студзеня 1566 года было загадана ўвесці ў дзеянне Статут ВКЛ.)*

Жыццё нашых прашчураў рэгламентавалася пэўнымі грамадзянска-прававымі нормамі. Напачатку гэта было звычаёвае права, першыя запісы якога захаваліся ў граматах і дагаворах, прыкладам, у дагаворы Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгаю і Гоцкім берагам 1229 года. У XIV і XV стагоддзях пачало развівацца заканадаўства. Законы выдаваліся ў форме прывілеяў, у якіх замацоўваліся правы феадалаў, шляхты, святарства. Але яны не маглі забяспечыць адзінства права для ўсёй дзяржавы. Першай спробай усталяваць яго стаў Судзебнік 1468 года, які называлі «Статутам Казіміра», вядомым цяпер пад назвай Судзебнік Казіміра — паводле імя малодшага сына Ягайлы і князёўны Соф'і Гальшанскай, вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага (з 1440 года), караля Польшчы (з 1447 года). Судзебнік Казіміра быў напісаны на беларускай мове. Ён пачаў новы этап «у развіцці прававой тэорыі, практыцы заканадаўчай дзейнасці дзяржаўных органаў, новых прынцыпаў сістэматызацыі і кадыфікацыі феадальнага права, якое завяршылася выданнем Статутаў Вялікага Княства Літоўскага».

Першы з іх — Статут 1529 года быў падрыхтаваны гаспадарскай (дзяржаўнай) канцылярыяй. Гэты Збор нормаў дзяржаўнага, зямельнага, адміністрацыйнага, грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, працэсуальнага і іншых галін права напачатку складаўся з 13 раздзелаў і 245 артыкулаў. Але не прайшло і 10 гадоў, а ў яго было дапісана яшчэ 38 артыкулаў: жыццё несла змены, а яны патрабавалі замацавання ў законах. Хаця ў Статут 1529 года і былі ўключаныя некаторыя нормы, што абмяжоўвалі магнацкае самавольства, ды і наогул усе грамадзяне ВКЛ незалежна ад маёмаснага стану судзіліся згодна з гэтым Зборам прававых нормаў, шляхта дамагалася большых правоў. Урэшце, як згадваў У.І.Пічэта, магнаты ВКЛ вымушаны былі «шляхцізаваць» дзяржаўны лад. Стала відавочнай неабходнасць рыхтаваць праект новага Статута.

На Берасцейскім сойме 1544 года Жыгімонт Аўгуст (1520—1572), вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы прапанаваў дзеля «паправы Статута» стварыць спецыяльную камісію — выбраць «...*з лацінскага, так і грэчаскага закона дзесяць асоб, людзей добрых, паважных, каторыя маюць тыя артыкулы водлуг патрэбы і водлуг Бога і рэчы справядлівае папрáвіці, а іншыя прычыніці і на першом сойме... іх оказаць, дзе патом цераз паспаліты сойм... маюць оныя артыкулы быць ухвалены і прыняты з гаспадарскім дазваленнем»*. Сойм зацвердзіў спецыяльны збор — адзін пеняз з кожнае сахі — дзеля аплаты працы камісіі.

Як згадваецца ў дакументах, у камісіі сталі працаваць «маршалкі, враднікі земскія, харужыя і іныя асобы роду і народу шляхецкого...» Сярод іх быў і Мартын Валадковіч, дзяк гаспадарскай канцылярыі, а таксама і ашмянскі шляхціч Павал Аставіцкі, які быў тады суддзём Віленскага павета.

У падрыхтоўцы новай рэдакцыі Збору законаў удзельнічалі і два дактары права. Адзін з іх — славуты юрыст і пісьменнік Пётр Раізій Гішпан. Ён выкладаў права ў Кракаўскім універсітэце, але пазней вымушаны быў пераехаць у ВКЛ. Можна меркаваць, што ён авалодаў дзяржаўнай мовай — беларускай, пра што сведчыць яго ная праца: «Заключэнне Пятра Раізія, каралеўскага юрысконсульта, аб справах, што слухаліся на судовых пасяджэннях Літвы, і аб абскарджанні судовых рашэнняў». Гэты тэарэтычны аналіз судовай практыкі ВКЛ не мог быць здзейснены без дасканалага валодання мовай, на якой пісаліся судовыя дакументы. Пра высокі ўзровень самой працы Раізія сведчыць цікавасць да кнігі: яна выдавалася ў Кракаве (1563 г.), у Франкфурце-на-Майне (1570 г.), у Венецыі (1572 г.). Трэба дадаць, што ў Вільні ў той час дзейнічала «школа права цывільнага, рымскага, саксонскага, магдэбургскага, літоўскага пад кіраўніцтвам П.Раізія». Можна меркаваць, што дзеля знаёмства з пералічанымі правамі шкалярам трэба было ведаць лацінскую, нямецкую і беларускую мовы.

Ды, відаць, асноўную працу ў падрыхтоўцы Статута 1566 года выканаў віленскі войт, сакратар вялікага князя і караля — Аўгуст Ратондус (Круглы?). Грунтоўныя юрыдычныя веды ён набыў у Нямеччыне ды ў Італіі, дзе ў адным з старэйшых універсітэтаў — Ферарскім — атрымаў ступень доктара «абодвух (кананічнага і свецкага) права». Роля гэтага «вучонага мужа» ў грамадскім і дзяржаўным жыцці ВКЛ была настолькі значнай, што і цяпер працягваюцца спрэчкі пра ягонае паходжанне. Якіх толькі «падставаў» ні прыдумалі даследнікі суседніх краін, каб прысвоіць сабе Аўгуста Ратондуса, каб даказаць, што не быў ён беларусам і не ведаў беларускай мовы. Але калі нават уявіць, што паляк нейкім чынам змог стаць віленскім (сталічным!) войтам (як вядома, займаць пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім маглі толькі ягоныя грамадзяне), ды ведаць, што гэты паляк стаў «апалагетам Літвы» і адным з аўтараў канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, то ці можна сцвярджаць, што гэты высокі гаспадарскі дзеяч не ведаў дзяржаўнай мовы? Як тады ён, віленскі войт, мог паразумецца з простымі мяшчанамі ды купцамі? Няўжо з дапамогай перакладчыкаў?

Сцвярджаюць некаторыя даследнікі, што А.Ратондус быў «перакананым прыхільнікам агульнай юрыдычнай тэрміналогіі (на лацінскай мове)». Але з гэтага не павінна вынікаць меркаванне: усё, што доктар «абодвух права» стварыў для Статута, напісана на лаціне. Мова ж Статутаў (усіх трох рэдакцый) — беларуская! Няўжо А.Ратондуса перакладалі?

Наадварот, як сцвярджаў прафесар І.І.Лапо, аўтар шматтомнай грунтоўнай навуковай працы пра Статут, менавіта А.Ратондус пераклаў — узорна! — гэты Звод законаў ВКЛ на лацінскую мову, каб пазнаёміць з Статутам новага польскага караля Стафана Баторыя, венгерца, які не ведаў дзяржаўнай мовы ВКЛ.

Трэба згадаць і пра тое, што ў 1522 годзе А.Ратондус апрацаваў Збор прававых актаў Вільні — «унікальную працу, якая патрабавала добрай юрыдычнай падрыхтоўкі, ведання судовай практыкі і мясцовых звычаяў». Як бачым, ёсць падставы лічыць роднай Аўгусту Ратондусу не толькі беларускую мову, але і Вільню, дзе, як вядома, жылі пераважна беларусы. Дзеля гэтага спашлёмся і на тлумачэнне прафесара І.І.Лапо запісу *Augustinus Rotundus a Velun* у матрыкуляцыйнай кнізе Вітэнбергскага універсітэта. Гэты даследнік Статута меркаваў, што апошняе слова запісу *Velun* — памылковае напісанне Вільні. Такім чынам, той запіс можа азначаць: *Аўгуст Круглы з Вільні.*

*(Заканчэнне будзе.)*

**З.СІЦЬКА.**

Галасы

***Мікола КАПЫЛОВІЧ***

*У апошнія гады я шмат іх запісаў у свой пісьменніцкі сшытак. Галасы гараджан і вяскоўцаў, маладых і пажылых людзей я чуў у электрычках і аўтобусах, у чэргах і на вуліцах. У іх у пэўнай меры адбіліся характары і лёсы маіх суразмоўцаў, іх спадзяванні і надзеі, розум пра бачанае і чутае. Працягваю я пільна ўслухоўвацца ў галасы сваіх землякоў і цяпер.*

**Аўтар.**

## Была стаханаўкай

— Ох, Тонька, што я сёння бачыла! Цырк на дроце! Ты маю суседку Ганну Пятроўну, мабыць, ведаеш. Пенсіянерку, што пада мною жыве. Дык вось. Учора я наважылася адведаць старую. Хварэе ж яна. Думаю, памагу чым бабулі. Падлогу хоць памыю. Пераступіла парог ейнай кватэры і ад дзіва ледзь не самлела. У кватэры — адна чырвань. Нібы агонь у кватэры палае. Нібы на гарадскую плошчу на Першае мая трапіла. Настольніцы, простыні, навалачкі суседка пашыла з чырвоных сцягоў і працілдралаў. З тых, што нядаўна пры Саветах па горадзе вывешвалі. На бальшавіцкія святы. Ноччу здымала тыя сцягі і шыла з іх сабе пасцельную бялізну. Бо не было за што купіць. Пенсія ж у яе маленькая. Калгасная. Ляжыць, бачу, цётка Ганна пад прасціралам, а на ёй залатымі літарамі выведзена: «Победитель социалистического соревнования». «Я, — кажа цётка, — у калгасе стаханаўкай была. Тады за палачкі рабілі. І вось толькі цяпер знайшла сваю ўзнагароду. За тыя палачкі і нулікі.

## Запрашэнне

— Добры, бачу, ты чалавек. Нават дабрэнны. Не абмінуў мяне на вакзале. Пасаргадаў і бутэльку піва паставіў. Залатое ў цябе сэрца. Наваг брыльянтавае. Рэдка цяпер сустрэнеш такога спагадлівага чалавека. Калі часам зноў будзеш у нашым горадзе, заходзь да мяне ў госці. Запрашаю. Нават вельмі прашу. Чыркні ў блакнот мой адрасок. Пішы: вуліца Чкалава, дом — нуль, кватэра — нуль. Чаму здзіўляешся? Думаеш, падманваю? Не, праўду кажу. Абавязкова заходзь, калі будзеш праязджаць. Прыму як дарагога госця. Нават з начлегам. Не трэба будзе табе шукаць гасцініцу ў горадзе. І грошы за яе плаціць. І не здзіўляйся, што ў мяне адны нулі. Я ў падвале жыву.

## Кульгавы

— Чаму не жанюся? Зірні хоць адным вокам на маю нагу. Бачыш пратэз? З Афганістана прывёз. На міне падарваўся. Цяпер мне сорак гадоў, а я ўсё халасцякую. І не буду жаніцца. Не хачу, каб мае дзеці, як бацька, кульгавымі былі.

## Кат

— Азіят ён, а не чалавек! Сын мой. Валік. Выгадаваў на сваю галаву. Цяпер інжынерам робіць. Колькі я мяса і сала перацягаў у Менск, калі ён быў студэнтам, колькі грошай патрацій, каб вывесці ў людзі! Парабкам, лічы, у яго быў. Усё яму аддаваў. Думаў, калі вырасце, стане на ногі — помач мне будзе. І дачакаўся. Не помачы, а немачы. І цяпер парабкую на яго. Кожны год па пяць кормнікаў гадую. Прадаю — сыну ідуць грошы. Пабудаваў яму кааператыў, купіў машыну — мала! Цяпер будуе дачу на Нарачы. І вось прыехаў на тым тыдні. Зноў: «Давай, старыкан, грошы!» Нават бацькам, бачыце, не заве. «Не дам, — кажу, — трэба мне і сабе трохі грошай пакінуць. На труну. Бо ты мяне, як чалавека, не пахаваеш. Як сабаку, заграбеш у зямлю. Грошай пашкадуеш». Дык ведаеш, што ён са мною зрабіў? Звязаў і пачаў біць. Качаў нагамі па падлозе. Пакуль грошы яму не аддаў. Вось які ў мяне сын! Кат! Не дай Бог нікому такога сына. Выгадаваў на сваю бяду...

## Бульба

— От урадзіла сёлета ў мяне бульба! У людзей, на пясочку, вырасла дробненькая, хоць замест шроту ў стрэльбу засыпай, а ў мяне — кладзі на бярэмак, як дровы. І ўся сопкая. Рассыпаецца ў місцы, калі зварыш. А ў людзей не ўдалася. Вунь у суседкі, калі паклала на талерку вараную бульбу, ні адна не рассыпалася. Уся слізкая, як мыла. Хоць бяры каторую бульбіну ды ў лазню ідзі. А ў мяне, дзякаваць Богу, у гэтым годзе ўдалася. Бо на торфе пасадзіла. На нізкім месцы. Угадала, што сёлета суша будзе. Добры быў на яе ўраджай. Бульбіны ў зямлі не ўмяшчаліся. Выпіралі іх з загонаў, што рэпу. І кожная бульбіна, калі вазьму ў рукі, падобная на дзіцячы мурзаты тварык. Адна ўсміхаецца сваімі вочкамі, другая мне падміргвае, а трэцяя, скрывіўшы мордачку, плача. Так і хочацца кожную пагладзіць і прылашчыць. Нават шкада лупіць такія бульбіны на абед.

**Да 75-годдзя Таварыства беларускай школы**

# За долю і волю

*(Працяг. Пачатак у №№ 1, 2.)*

«Летапіс Таварыства беларускае школы» выходзіў з траўня да лістапада 1933 г. і са студзеня да жніўня 1936 г. У 1934—1935 г. не выходзіў з прычыны забароны дзейнасці Таварыства.

Калі ў канцы 1936 г. ТБШ было ліквідавана, выданне працягвала выходзіць у свет пад назвай «Беларускі летапіс». Яго выдавалі тыя самыя сілы, што і пры Таварыстве. У рэдакцыйнай калегіі сталі прозвішчы Ф.Стэцкевіча. С.Паўловіча, М.Танка, Р.Шырмы і В.Тумаша.

І «Летапіс ТБШ», і «Беларускі летапіс» мелі сталае кола аўтараў. Акрамя пералічаных членаў рэдкалегіі, на яго старонках з'яўляліся публіцыстычныя, навукова-папулярныя і мастацкія творы, падпісаныя С.Станкевічам, М.Машарам, М.Васільком, Н.Тарас, А.Горным, А.Дубровічам, Г.Новік, М.Міцкевічам, М.Яварам, П.Кізевічам, А.Іверсам, М.Марцінчыкам, Ф.Грышкевічам і іншымі. Многія матэрыялы друкаваліся пад псеўданімамі і падпісваліся прозвішчамі, якія сёння нам нічога не гавораць (Вінцук Канцавы, П.Міхальскі, В.Жукоўская, А.Чэмер, А.Пружанскі, Т.Трафімавічанка, Я.Хвораст і інш.), але за якімі стаяць гарачыя сэрцы і светлыя галовы беларускіх патрыётаў, у асноўным студэнтаў Віленскага універсітэта.



Адрозненне ў назве па сутнасці аднаго і таго ж выдання ў розныя перыяды не з'яўляецца выпадковасцю. У «Летапісу...» галоўнае месца займала рубрыка «Хроніка ТБШ» — пра жыццё і справы ў Віленскім цэнтры і на перыферыі, у паасобных управах, суполках і творчых калектывах арганізацыі.

Артыкулы ад рэдакцыі (у нашым разуменні перадавіцы) ішлі без загалоўка і подпісу, былі досыць аморфнымі па кампазіцыі, аднак усе на тэмы народнага жыцця: духоўны занепад беларускага грамадства, неразвітасць нацыянальнай свядомасці, гаротны лёс роднай школы, ненармальныя варункі для здабыцця асветы, жабрацтва і хваробы ў побыце працоўных, — усё тое, з чым спрабавала змагацца і ад чаго спрабавала самаахвярна бараніць суайчыннікаў ТБШ у Заходняй Беларусі. Пытанні, якія ўзнімала рэдакцыя, падхоплівалі аўтары і чытачы ў сваіх допісах з месцаў, у публіцыстычных і мастацкіх творах («Шпітальныя нарысы» З.Парфановіч, «Пад Новы год» Р.Ш., «Сухоты і барацьба з імі» доктара М.Марцінчыка, «Медыцына ў сучаснай вёсцы» Medikusa, «Курсы для дарослых» П.Кізевіча, «Чаму мы дамагаемся роднае школы» Вучыцеля, «Шляхам асветы» Палешука і інш.).

У «Беларускім летапісе» са старонак знікла «Хроніка ТБШ» і публікацыі, звязаныя з барацьбой за беларускія школы (школы не выжылі), а таксама за існаванне шматлікіх культурна-асветных суполак ТБШ (яны былі ліквідаваны разам з Галоўнай управай арганізацыі ў Вільні). Месца гэтых публікацый занялі іншыя рубрыкі і матэрыялы, у якіх, аднак, прасочвалася тая ж мэта: змагацца з усімі бедамі народа — ужо ў новых умовах дзейнасці прыхільнікаў адраджэння. З'явілася шмат публікацый з асветніцкім, маральна-этычным і выхаваўчым зместам, якія часам мелі працяг у некалькіх нумарах («Бібліятэка самаадукацыі» Палешука, «Хатняе навучанне» і «Самаадукацыя» С.Паўловіча; «Культурная праца» і «Асвета і хатняе навучанне» А.Горнага; «Мова эсперанта» Ф.Стэцкевіча; «Запісы беларускага навуковага таварыства»). Публікаваліся таксама заклікі і дэкларацыі («Новы год пачынаючы» — дэкларацыя беларускага студэнцкага саюза ў Вільні; «Беларускі нацыянальны камітэт кліча да асветнай працы» — за подпісам Ф.Стэцкевіча, д-ра Станіслава Грынкевіча, сакратара Яна Пазьняка, скарбніка Мікалая Манцэвіча). Шмат з'явілася артыкулаў на тэмы нашай гісторычнай мінуўшчыны, у якіх ставілася задача абуджаць у народа нацыянальныя пачуцці, знаёміць з гісторыяй продкаў і дзяржавы, узнімаць адукацыйны ўзровень працоўных людзей («Трэці статут Вялікага Княства Літоўскага», «Кастусь Каліноўскі і паўстанне 1863 года» (за подпісам «ВС»); «З мінуўшчыны беларускага руху» (за подпісам «Аганёк»), «Наша культура калісьці цяпер» (рэдакцыйны), «Луі Пастэр» Р.Шырмы, «Гісторыя культуры» Ул. Пігулеўскага і інш.). Шмат публікацый было на тэмы беларускай песеннай і музычнай культуры, беларускага фальклору, творчасці маладых, пра славутых сыноў беларускага народа — Забэйду-Суміцкага, Арсенневу, Танка, Шырму і інш. («Аб нас пішуць», «Вечар беларускай паэзіі і песні», «Дзень беларускай культуры», «Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская песня», «Песняр Нарачы», «Юбілей Рыгора Шырмы», «Наталля Арсеннева ў Вільні» і інш.)



Артыкулы ад імя рэдакцыі сталі больш канкрэтнымі і апрацаванымі па тэме і зместу, прыкладам чаго можа служыць артыкул Максіма Танка «Крыніцы нашай творчасці».

Падрабязна асвятлялася ў «Беларускім летапісе» і рэформа беларускага правапісу, прынятая ў БССР у верасні 1933 г. (пад рубрыкай «У парадку дыскусіі»). Часопіс адгукаўся не толькі на падзеі ўнутранага жыцця краіны, але і на падзеі, якія адбываліся ў жыцці суседніх народаў, напрыклад, на аншлюс Аўстрыі Германіяй.

Пастаянна публікаваліся ў месячніку звароты да беларусаў ад імя рэдакцыі, у якіх выказвалася просьба даць хоць маленькую ахвяру на развіццё беларускай справы.

Зразумела, што простага пераліку публікацый і агульнай характарыстыкі выдання, аб якім ідзе гаворка, яшчэ недастаткова для таго, каб непасрэдна судакрануць чытача з мінулай эпохай — да трымцення душы і сардэчнага болю. Для гэтага трэба ўчытацца ў пажаўцелыя старонкі. Вядома, што ў людзей кароткая памяць і цвёрдыя сэрцы. І той здзек, які калісь чыніўся над продкамі, іх ахвяры і пакуты, сёння амаль ужо забыты нашчадкамі. Найлепшы паратунак ад беспамяцтва, на маю думку, гэта звяртацца час ад часу да старонак даўніх беларускіх выданняў, такіх, напрыклад, як «Летапіс ТБШ». Адгарнем жа яго першую старонку.

*(Працяг будзе.)*

**Ірына КРЭНЬ.**

**На здымках: Міхал Забэйда-Суміцкі. Наталля Арсеннева і Максім Танк** пасля дыскусіі ў літаратурна-мастацкай секцыі Беларускага навуковага таварыства.

**У сусвеце**

# Разгадваюцца таямніцы выспы Пасхі

Шмат якія даследнікі спрабавалі расшыфраваць старажытныя іерогліфічныя знакі славутай выспы Пасхі, але беспаспяхова. Сёння ва ўсім свеце вывучэннем пісьмовасці старажытнай цывілізацыі ціхаакіянскай выспы займаюцца ўсяго некалькі чалавек. Адзін з іх жыве ў Краснадары. Год таму «Известия» паведамілі пра сенсацыйнае адкрыццё начальніка службы тэлемеханікі, сувязі і вылічальнай тэхнікі прадпрыемства «Краснадарэлектра» Сяргея Рабчыкава, які здолеў знайсці ключ да таямнічых іерогліфаў. Мінулы год пацвердзіў правільнасць зробленай Рабчыкавым разгадкі і прынёс шмат новых цікавых адкрыццяў.

33-гадовы Сяргей Рабчыкаў зацікавіўся разгадваннем таямніц выспы Пасхі яшчэ 18 гадоў таму. І хоць па адукацыі ён фізік, ягоныя лінгвістычныя ды гістарычныя пошукі аматарскімі ўжо не назавеш. Калі чыста шыфравальныя, матэматычныя метады, пры дапамозе якіх Сяргей перш намагаўся «разгаварыць» старажытныя пісьмёны, завялі ў тупік, ён засеў за вывучэнне гісторыі, моваў, культуры ўсёй Палінезіі. Вывучыў, напрыклад, не толькі сучасную рапануйскую мову, але і ейную старажытную аснову. Таямнічыя знакі, пакінутыя старажытнымі жыхарамі выспы — фігуркі чалавека і жывёлаў, выявы раслінаў, лодак, ветразяў і г.д., — дайшлі да нас у выглядзе тэкстаў на 20 драўляных дошчачках, нагрудных аздобах, посаху і фігурцы птушкі-чалавека, якія захоўваюцца ў розных музеях свету. Адна з такіх дошчачак, вядомая спецыялістам як Вялікая ленінградская, захоўваецца ў Музеі антрапалогіі ды этнаграфіі ў Санкт-Пецярбургу — яна была падараваная М.Міклуха-Маклаю таіцянскім епіскапам Т.Жасанам. Менавіта на гэтай дошчачцы Рабчыкаў аднаго разу, калі сума інфармацыі пра жыццё старажытных рапануйцаў стала дастаткова вялікай, і здолеў знайсці ключ да старажытных тэкстаў. Раптоўна замкнуўся складаны ланцужок, які меў у сабе імя аднаго з бостваў рапануйцаў і падзеі старажытнага міфа, і Рабчыкаў убачыў, што іерогліфы складваюцца ў слова «акула».

Выкарыстоўваючы знойдзены ключ, Рабчыкаў здолеў прачытаць значэнні і многіх іншых знакаў, прычым правільнасць расшыфроўкі шматразова правяралася фармальным аналізам тэкстаў, заканамі чаргавання гукаў палінезійскай мовы і спалучальнасцю атрыманых значэнняў з ужо вядомымі фальклорнымі тэкстамі.

Да 1985 года Сяргей Рабчыкаў расшыфраваў каля 70 знакаў, цалкам здолеў прачытаць і асобныя фрагменты тэкстаў. Прычым ішоў абсалютна піянерскім шляхам, вынікі расшыфроўкі карэнным чынам розніліся ад вядомых спробаў, якія рабіліся на аснове запісаў епіскапа Т.Жасана. А ён чуў, як рапануец Метора чытаў тэкст дошчачак. Але паведаміць свету пра вынікі расшыфроўкі Рабчыкаў не здолеў — афіцыйная савецкая навука трымала трывалую абарону супраць намераў самавукаў.

Першыя публікацыі краснадарскага навукоўца з'явіліся ў замежных выданнях. І толькі ліберальныя павевы перабудовы дазволілі прабіцца «феномену Рабчыкава» ў сваёй краіне. Краснадарскі даследнік атрымаў запрашэнне выступіць у Маскве з дакладам «Пісьмовасць выспы Пасхі»: вынікі дэшыфроўкі» на Міжнароднай навуковай канферэнцыі па вывучэнні паўднёвай часткі Ціхага акіяна, выступае з дакладамі і на Маклаеўскіх чытаннях у Санкт-Пецярбургу, вядзе шырокую перапіску з навукоўцамі Новай Зеландыі, ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстраліі ды іншых краін.

Сяргей Рабчыкаў расшыфраваў ужо каля 600 загадкавых знакаў, якія сустракаюцца на ўсіх 20 дошчачках, здолеў прачытаць не толькі фрагменты, але ўжо і асобныя тэксты.

— Тое, што мне ўдавалася расшыфраваць, пераварочвае ўяўленні пра гісторыю выспы Пасхі, — расказвае ён. — Там была сапраўды вялікая старажытная цывілізацыя, а не першабытная грамадства, як лічылі савецкія навукоўцы-марксісты. Прыкладам, я знайшоў у пісьмёнах рапануйцаў запісы аб астранамічных назіраннях, яны мелі нават дастаткова моцную методыку прадказвання сонечных зацьменняў... Таямніца з'яўлення вялізных каменных стодаў, якія захаваліся на выспе, дагэтуль хвалюе, спараджае спрэчкі. Мне ўдалося знайсці на дошчачках імёны бостваў, якімі рапануйцы называлі сваіх каменных стодаў.

Але, займаючыся, увогуле, дастаткова неверагоднай работай — разгадкай таямніцаў далёкай ад Краснадара выспы ў Ціхім акіяне, Сяргей не лічыць сябе ні дзівакам, ні фанатам, які патануў у глыбіні стагоддзяў. Сям'я, дом, работа на прадпрыемстве і садовай дзялцы — зусім звычайны клопат, як ва ўсіх. Праўда, асноўная праца Сяргея на «Краснадарэлектра» аказалася вельмі карыснай і для ягонага захаплення. Рабчыкаў здолеў аднавіць храналогію рапануйскай гісторыі: расшыфраваўшы на дошчачках згадванні аб сонечных зацьменнях, а таксама некалькіх з'яўленнях каметы Галея, ён разлічыў на кампутары, калі менавіта на выспе Пасхі маглі назіраць гэтыя зацьменні, што дазволіла датаваць час з'яўлення на выспе многіх вярхоўных правадыроў.

— Расшыфраваўшы старажытныя пісьмёны, я знайшоў там не толькі астранамічныя назіранні рапануйцаў, але і расповяд пра тое, як яны ўяўлялі карціну стварэння свету, звесткі аб выкідах вулканаў, лоўлі рыбы і вырошчванні раслінаў, бытавыя звесткі і шмат чаго іншага, — кажа Сяргей. — Рапануйцы мне сімпатычныя. І як бы нам сёння ні здавалася, што іхнае жыццё і іхні свет ужо бясконца далёкія ад нас, між мінулым выспы Пасхі і сённяшнім днём ёсць шмат агульнага. Але, вельмі цікаўнай была працэдура штогадовых выбараў кіраўніка выспы. Гэтыя выбары былі дэмакратычныя. Правадыры і ваяры ў поўныя дні года павінны былі плысці на суседнюю выспачку й знайсці яйкі птушак крачак. Ваяр альбо правадыр, чыя каманда першая знаходзіла яйка, і абвяшчаўся «прэзідэнтам» выспы. Але трэба зазначыць, што прэтэндэнтаў, якія адыйшлі пасля прыходу да ўлады скасаваць «канстытуцыю», своеасаблівы кодэкс няпісаных правілаў паводзін, што дапамагаў рапануйцам выжываць, а таксама ўстанавіць другі рэжым кіравання, — такіх прэтэндэнтаў да выбараў проста не дапускалі.

**Андрэй АДЗЯРОХІН**, г.Краснадар.
(«Известия», 6.01.96. № 3.)
**Пераклад Г.Кажамякіна.**

